

# ІСКРЫ ІЛЬІЧА

ДВБ ЮНДЗЕТСЕКТАР

СТУДЗЕНЬ 1935 г. № 1

ЯНКА КУПАЛА

# Абвілася краіна у кветкі

Абвілася краіна
   у кветкі,
Кліча сонца і месяц
   у сведкі.
Ураджай даюць буйны
   палеткі,
Збожжа поўныя гумны,
   паветкі.
Весяляцца старыя
   і дзеткі,
Што прыбытак ад працы
   ў іх гэткі,
Што мінулі батрацтва
   наследкі,
Не ядуць болей панскіх
   аб'едкаў.
Абвілася краіна
   у кветкі,
Кліча сонца і месяц
   у сведкі.



ІСКРЫ ІЛЬІЧА
ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСВЕТЫ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ОКЦЯБРАТ
І ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ
СТУДЗЕНЬ 1936 № 1





# ГАНАРОВЫ МАШЫНІСТ

*(З пісьма таварышу СТАЛІНУ ад машыніста паравоза „У—127“, ганаровым машыністам якога быў В. І. ЛЕНІН)*

... Я хачу расказаць, таварыш Сталін, пра сваю машыну. Яна ў мяне не простая машына. Я і цябе на ёй вазіў два разы.

Праўда, мой паравоз стары і мала падобны на цяперашнія, новыя. Пасля грамадзянскай вайны яго былі зусім выкінулі, як нягодны.

Настаў 1923 год. Партыйная ячэйка дэпо Масква-Павелецкая рыхтавалася да свайго юбілею. Беспартыйныя рабочыя парашылі падрыхтаваць да юбілею ячэйкі які-небудзь свой падарунак. І вось яны ўспомнілі пра закінуты паравоз „У—127“. Узялі адрамантавалі яго, і стаў паравоз як новы.

З радасцю прыняла ячэйка гэты падарунак ад беспартыйных рабочых. І тут-жа на вечары пастанавілі выбраць Владзіміра Ільіча ганаровым машыністам, сакратара райкома т. Зямлячку—памочнікам машыніста і старога большэвіка Падвойскага — качагарам. Ну, а машыністам гэтай машыны прызначылі мяне.

Пасля гэтага трэба было паведаміць таварышам, хто якую пасаду займае на паравозе. Выпісалі разліковыя кніжкі на ўсіх, і пайшоў я ў Крэмль да Владзіміра Ільіча Леніна, каб перадаць яму прызначэнне.

Успамінаю я гэты дзень, як сон. Ішоў і думаў, як-бы не забыцца расказаць пра самае важнае. Да гэтай сустрэчы мне прышлося чуць і бачыць Уладзіміра Ільіча чатыры разы. Але ўсё гэта былі сустрэчы выпадковыя. А зараз была мая пятая сустрэча з Леніным. Чатыры разы я Леніна толькі слухаў, а тут трэба будзе самому гаварыць прамову перад Леніным.

Я, сказаць папраўдзе, доўга завучваў сваю прамову. Хацелася сказаць карацей і ясней.

Але не паспеў я пераступіць парог габінета Ільіча, як уся мая завучаная прамова аказалася непатрэбнай. Як быццам стрэўся з старым знаёмым.

— Што чуваць у дэпо? Як жывуць рабочыя?—засыпаў мяне Ленін пытаннямі.

Я адказаў яму на ўсё. Потым узяў ён разліковую кніжку. Тут я сказаў Ільічу, што мы з ім, значыць, на адным паравозе служым, бо мне рабочыя даручылі вадзіць паравоз.

Уладзімір Ільіч прасіў мяне перадаць падзяку рабочым нашага дэпо за тое, што мы адрамантавалі старую машыну. Я абяцаў



Помнік В. І. Леніну ў г. Менску.

працаваць так, каб апраўдаць гонар паравоза, які мае машыністам тавāрыша Леніна.

І хіба я мог падумаць тады, што праз год мне прыдзецца везці свайго ганаровага машыніста з Горак мёртвым?

Здаецца, ішоў тады другі з'езд советаў. Калі загадалі нам выслаць спешны поезд на Горкі, мы ўсе, як адзін, парашылі:

— Значыць, Ільіч паправіўся. Едзе на з'езд.

Але якім-жа вялікім было наша гора, калі мы неўзабаве ўведалі нечаканую праўду!

У ноч на 23 студзеня я рыхтаваў свой паравоз у дарогу. Ледзь развіднелася, і я павёў поезд з усімі членамі Палітбюро ў Горкі. Тады я першы раз убачыў цябе, таварыш Сталін.

У Горках да мяне падышоў таварыш Дзяржынскі і сказаў:

— Роўна ў гадзіну, як адна мінута, мы павінны быць у Маскве.

Цяжка ўспамінаць гэты дзень... Я доўга не мог крануць поезд з месца. Тысячы сялян прышлі сюды. Яны запоўнілі ўсё і, не зважаючы на мае просьбы і гудкі, не давалі дарогі. Шлях быў закрыт.

— Куды ты вязеш яго?—пыталі мяне яны са слязамі на вачах.

Нарэшце мне ўдалося ўгаварыць сялян, і яны далі дарогу.

Мне было загадана ехаць да Масквы без астановак.

Па ўсёй дарозе сяляне збіраліся да станцый і аддавалі зямныя паклоны поезду. Поезд ішоў не спыняючыся. Але вось на станцыі Бірулёва людзі загарадзілі дарогу. Я пачаў даваць гудкі. Ніхто іх не слухаў. Тады я вымушан быў спыніць поезд. Усе кінуліся да мяне. І вось я першы раз у жыцці павінен быў сказаць невялічкую прамову пра дарагога Ільіча, якога ўжо няма ў жывых. Сяляне расступіліся, праводзячы поезд са слязамі.

Роўна ў гадзіну я быў у Маскве.

З таго памятнага дня да надпісі на маім паравозе—„ад беспартыйных рабочых ячэйцы РКП(б)"—прыбавілася яшчэ адна:

„Гэты паравоз вёў траурны поезд, у якім перавезена цела правадыра сусветнага пролетарыята Владзіміра Ільіча Леніна 23 студзеня 1924 года ад платформы Герасімаўка да станцыі Масква-Пасажырская".

З таго часу, таварыш Сталін, я вяду гэту машыну.

Машыніст паравоза „У—127" М. К. ЛУЧЫН.



ЯКУБ КОЛАС



# У ЧЫМ ІХ СІЛА

(КАЗКА)

Малюнкі В. Тіхановіча

I

Можа гэты быў і не той верабейчык, што прасіў былінку, каб яго пакалыхала. Але з пэўнасцю можна сказаць, што на былінцы ён калыхаўся. Каб я ведаў вераб'іныя імёны, то я і назваў-бы яго, даў-бы яму самае прыгожае вераб'інае імя. Але пра вераб'іныя імёны нічога не было чуваць і ў календары імёны іх не значацца. Дык будзем называць яго проста Верабейка-Калыханчык.

Усё гэта адбывалася ў калгасе. Тут былі такія будынкі: хаты з чырвонымі комінамі, клуні, хлявушкі, свіронкі і прыгрэбнікі з нізенькімі, да самае зямлі, стрэхамі. Двары былі прасторныя і вясёлыя. Каля хат раслі кучаравыя вішанькі; былі тут грушы і яблыні. З аднаго боку стаяў цёмны лес. У лесе жылі звяры і драпежныя птушкі: каршуны, совы, пугачы, ястрабы. Выходзіў часамі з лесу воўк і выглядаў, ці не ходзяць парасяты або другая жыўнасць. Наляталі таксама і каршуны, каб забраць бедную курыцу ці якую-небудзь птушку. А птаства тут было многа: былі тут вераб'і, ластавачкі, плісачкі, галубы, качкі і другія.

Верабейка-Калыханчык знайшоў сабе жонку, таксама з славутай вераб'інай фаміліі. І сталі яны ўдваіх будаваць сабе хатку. Аблюбавалі яны вельмі добрае месца і не дзе-небудзь, а пад страхою гаспадарскага дому. Тут было і зацішна і цёпла. Адным словам, такая прыўдалая шчыліна, што рэдка якому вераб'ю здараецца такая ўдача. Калыханчык насіў саломку, сухія карэньчыкі пырніку і наогул матэрыял болей цяжкі, бо ён-жа быў мужчына. Яго жонка рабіла работу болей лёгкую і болей далікатную: яна падбірала пер'е.

Яе нават быў напалохаў раз певень, моцна напалохаў. Вераб'іха націкавала сабе белую курыную пярынку і ўзяла яе ў дзюбку. А гарлан-певень крыкнуў грозна:

— Куды? Куды?

Вераб'іха ад страху выраніла пярынку і адляцела досыць далёка.

Певень апамятаваўся, відаць, пашкадаваў вераб'іху, і ён ужо ласкава загаварыў да яе:

— Бяры! бяры!

Некаторы час на дварэ не відаць было вераб'іхі. Думалі, што яна можа з пярэпалаху захварэла. Калыханчык быў надта заклапочаны ў гэты час. Але аказалася, што вераб'іха сядзела проста на гняздзе пад страхою, а потым прайшла чутка, што ў Калыханчыка ёсць дзеці, цэлых пяць штук. Ну і рад-жа быў Калыханчык! Карміў сваіх дзетак, пазіраў на іх, цешыўся імі. Калі дзеці трохі падраслі і пачалі шчабятаць, бацькі селі на страсе каля сваёй хаты. Яны адчувалі сябе шчаслівымі: дзеці іх раслі, гадаваліся, дужэлі і былі разумныя. Сярод іх былі хлопчыкі і дзве дзяўчынкі. Называліся хлопчыкі так: Чы-Лін, Чын і Чук, а дзяўчаткі—Чуча і Жычка.

II

У Калыханчыка і яго жонкі былі не толькі радасці,—быў у іх і клопат, і трывога. Іх дзеці сталі падрастаць і ўходзіць у сілу. Ім ужо было цесна ў бацькавай хаце, ім хацелася на свет, на прастор, на волю. Таксама хацелася і сілу сваіх крылляў папрабаваць. Асабліва неспакойным, жывым і праворным быў Чы-Лін. Але на гэтым прасторы было многа небяспекі. Нядаўна сюды залятаў ястраб. Ён чуць-чуць не злавіў ластавачкі і не задраў курачкі. І толькі храбрасць пеўня Ціпа выратавала няшчасных, бо Ціп у час крыкнуў так моцна, што на яго крык выбегла гаспадыня і прагнала драпежніка.

Параіўшыся з жонкаю, Калыханчык падляцеў да гнязда і сказаў:

— Дзеці, дзеці! Ціха сядзіце! З хаты не вылазіць, калі нас няма, а то пахватае вас ястраб.

— Слабо! — адказаў бацьку Чы-Лін.

Калыханчык засмяяўся ад радасці, што мае такога смелага сына. Ён пацалаваў яго ў самую дзюбку і маланкаю паімчаўся ў каноплі. Астаўшыся дома, Чы-Лін не доўга сядзеў спакойна. Ён далёка высунуў з гнязда галаву.

— Хачу ляцець! Хачу ляцець!— крыкнуў ён і высунуўся яшчэ больш.

Певень Ціп, пачуўшы гэта, строга перасцярог:

— Куды? Куды?





Чын і Чуча схвацілі неспакойнага брата дзюбкамі за лапкі і не пускалі, а ён крычаў:

— Пусці! пусці!

Вызваліў лапкі і паляцеў... Але не ўгору, а ўніз, няспрытна перабіраючы крыльцамі.

Чын, Чук, Чуча і Жычка паднялі гвалт. Прыляцелі бацькі. Справілі крык.

Праўда, Чы-Лін досыць шчасліва апынуўся на зямлі каля прызбы. Ён сам страшна перапалохаўся і цяжка дыхаў.

— Сынок! сынок!—крычала маці:—ці жывенькі ты?

Чы-Лін шырока раззявіў жоўты рот.

— Жыў! жыў! — адказаў матцы.

Певень, праходзячы каля прызбы, спыніўся, падкурчыў адну нагу і строга зірнуў на беднага Чы-Ліна.

Гэты выпадак з Чы-Лінам меў багатыя вынікі. У той час, калі птушкі думалі пра здарэнне з Чы-Лінам, пры лесе, на сухой дубовай галінцы, сядзеў каршун і пільна сачыў за тым, што робіцца навокала. Каршун быў стары, вялікі з загнутым сярпом-дзюбай, з доўгімі і вострымі кіпцюрамі. Улучыўшы мінуту, стралою мільгануў ён у паветры і ў момант вока схапіў кіпцюрамі куранё ды панёс у лес.

Ой, якая паднялася тут суматоха, трывога!

Мацней за ўсіх крычаў певень.

— Куды панёс? Куды панёс?

Закружыліся галубы: падняліся высока, высока ў неба. З усіх канцоў пазляталіся ластавачкі.

— Цуп-цуф! Цуп-цуф!—крычалі яны.

Сядзеўшы ў гэты час за клуняю на вярбе дрозд жаласліва высвістваў:

— Ухваціў! Ухваціў! А-а-а!

Чы-Лін пазіраў на гэту сумятню: дзівіўся і, відаць, нешта думаў. Потым ён задраў угору галаву.

— Чук! Чук!—пачаў клікаць брата.

Але тут да яго падляцеў Калыханчык, схапіў сына за крыльцы і пабег з ім у вішнячок, у крапіву, каб схаваць яго ад бяды.

## III

Тут ён прасядзеў цэлых тры дні. Бацькі прыносілі яму яду, так што галадаць тут не прыходзілася. Спачатку трохі было маркотна аднаму, але потым прывык. Седзячы адзін у крапіве, Чы-Лін пачаў разважаць, думаць, наглядаць, што робіцца навокала. Ён бачыў, што сярод птаства на двары няма згоды, што ўсе яны жывуць разбродам, думаюць толькі аб сваіх патрэбах, а гэтым карыстаюцца драпежнікі і вудзяць іх патроху сабе на спажытак.

Чы-Лін пачаў развіваць сваю думку далей. На трэці дзень у яго галаве зложыўся пэўны план, але аб ім пакуль што ён нікому не гаварыў. К канцу трэцяга дня ён узляцеў на паркан, з паркана на грушу, з грушы на клуню, і з гэтага часу пачаў вельмі спрытна лятаць.

На чацверты дзень павыляталі Чук, Чын, Жычка, Чуча. Дзён два яны жылі пад строгім доглядам бацькоў, а потым патроху пачалі жыць незалежна.

Вось цяпер Чы-Лін узяўся за работу. Ён кідаў новыя мыслі ў птушыныя галовы, мыслі аб тым, каб завесці новы парадак сярод птаства, каб не давацца больш у крыўду драпежнікам. Усюды ён знаходзіў спачуванне, і ўсё птаства з ахвотаю згадзілася з Чы-Лінам, каб сабраць агульны сход.

Сход адбыўся на прыгуменні. Тут было прасторна. На прыгуменні стаяў і азярод, дзе вельмі добра было рассесціся і птушкам. Некаторы час быў шум і трудна было пачуць, хто што гаворыць.

— Ціха! — крыкнуў Чы-Лін.

Усе сціхлі.

— Грамадзяне! прашу трымаць парадак, бо так мы патрацім час і наш сход не зможа нічога зрабіць. Выберам раней старшыню, каб ён правёў сход. З свайго боку я прасіў-бы выбраць за старшыню Ціпа.

— Ціп! Ціп! Ціп!— зашумелі птушкі. Певень



прыняў яшчэ больш важную постаць. Стоячы на шуле, ён моцна замахаў крыллямі і падзякваў за вялікі гонар, які аказаў яму сход, моцным— ку-ка-рэ-ку.

Затым ён сказаў:

— Абвяшчаю наш сход адкрытым. Слова для даклада мае Чы-Лін.

— Просім! Просім!—загаманілі птушкі.

Чы-Лін выступіў.

— Грамадзяне! Усім вам вядома, пад якім страхам жывем мы. Залятаюць з лесу ястрабы і каршуны: цягаюць нашага брата. Чаму? А таму, што мы жывем кожны па сабе, не думаем аб другіх, не дапамагаем адзін другому. Давайце-ж будзем жыць у згодзе, давайце арганізуем калектыў і завядзем такі парадак, каб у нас былі вартаўнікі. Вартаўнікі пададуць знак, калі дзе пакажацца драпежнік, і мы ўсе будзем ведаць пра бяду і не дапусцім яе на двор. Апрача гэтага, нам трэба мець войска—адбіваць драпежнікаў.

— Ура! Ура!—закрычала варона.

— Так-так-так!—азвалася качка.

— Брава! Брава!—крыкнуў шпак.

— Жыві, Чы-Лін! Жыві, Чы-Лін!—з усіх канцоў шчабяталі вераб'і.

— Кока! Ко-о-о-ка!—пахвалілі Чы-Ліна куры.

Так і зрабілі. Паставілі варту, сабралі войска. Ластавачкі павінны быць на варце і падаваць умоўны знак, калі будзе якая небяспека.

— Рэпетыцыю! Рэпетыцыю!—закрычала ластавачка.

Папрабавалі зрабіць рэпетыцыю. Калі сход скончыўся і ўсе разышліся па сваіх справах, вартаўнік-ластавачка крыкнула з-пад лесу:

— Цу-пу-цуф! Цу-пу-цуф!

У адзін момант другія ластавачкі перадалі гэты крык па ўсім двары, а птушкі зараз-жа падрыхтаваліся да абароны.

— Шыкарна! Шыкарна!—казала сарока.

І вось, калі назаўтра сапраўды выляцеў з лесу ястраб, то не паспеў ён праляцець і паўдарогі да двара, як яго спаткала моцнае птушынае войска. Адна варона так дзюбанула нягодніка, што з яго аж пер'е пасыпалася і ён больш ніколі не паказваў сюды носа.

І стала спакойна, вольна жыць цяпер птушкам. А дрозд спяваў ужо такую песню:

— Сіла ў калектыве! Сіла ў калектыве!



# Байка пра Мішу і зайку



Верш Т. Кляшторнага,
В. Маракова і А. Дудара
Малюнак В. Тіхановіча

Зайчык поле перабег,
Пакапыціў следам снег.
Снег глыбокі вельмі быў,
Зайка лапкі застудзіў.
Замарыўся, бедны, сеў,
Эх, каб лыжы зайка меў!
Ён скарэй-бы мчацца мог,
Не марозіў-бы ён ног.
А каб даць яму канькі,
Быў-бы ён герой такі,
Што і Міша Траснікоў
Ад яго адстаць гатоў.

Выбег Міша за сяло, —
Поўна снегу намяло.
Мчыцца Міша—раптам—ах!
Што за звер такі ў кустах?
Вушы доўгія тарчаць,
Вочы косыя блішчаць.
Міша быў гатоў самлець:
Ён падумаў, што мядзведзь.
Міша лыжы пагубляў,
Звер таксама ходу даў.
Ратаваўся хто як мог,
Уцякалі са ўсіх ног.
Потым Міша расказаў,
Як мядзведзя ён ганяў,
А прагнаў ён усяго
Толькі зайку аднаго.



# КОЛЬКАЎ БАЦЬКА

Апавяданне Янкі Скрыгана
Малюнкі Басава

I

На зімовыя канікулы школьнікам задалі напісаць работу на тэму—які ўдзел у Кастрычніцкай рэволюцыі прымалі вашы бацькі.

Колькавага бацькі не было дома. Яго чакалі з дня на дзень з камандыроўкі. Урэшце прышла тэлеграма, што ў раёне ён астанецца яшчэ тыдняў на пару. Колька быў нярад—ён баяўся, што бацька не вернецца да канца канікул і нічога не раскажа. А яму хацелася скарэй напісаць, і ён загадзя ўжо бачыў—як гэта будзе цікава.

Праз гэта ён нават часта начамі не мог заснуць. Ён бачыў перад сабою вайну, чырвонаармейцаў, гарматныя стрэлы, коннікаў з голымі шаблямі. Яны нясуцца з крыкам—у дыме, у страляніне—праганяючы буржуяў. І сярод іх сяды-тады мільгаў твар бацькі. Ён то нешта крычаў і махаў рукамі, то камандаваў, то нёсся наперадзе ўсіх, то абстрэльваў бронецягнік, то вёў палоннага генерала. Колькавы думкі так разгараліся, што ў галаве пачынала шумець. Ён уяўляў, што ён ужо чытае гэта

ў школе, і ўсе школьнікі слухаюць, затаіўшы дыханне. „От які адважны бацька ў Колькі“,—перашэптваюцца яны. Колька рад. Яму хочацца з усімі гаварыць і яшчэ больш расказваць.

2

Неўзабаве трэба было ісці ў школу, а бацька не прыязджаў. Ён папрасіў, каб яму пра ўсё расказала мама. Мама расказала, таксама ўспамінаючы гарматы і вялікія страхі. Яна гаварыла пра Калчака, Балаховіча, пра бандытаў. Колька слухаў, затаіўшы дух, але з маміных апавяданняў ён мала разумеў—дзе-ж тут што рабіў бацька?

— І татка ўсюды там быў?—запытаўся ён.

— Ну, а як-жа. Твайму татку цяжка было, яго раз траха не застрэлілі.

— Мамка, а ён быў ранены?

— Не, яму пашанцавала.

— А я сніў, як ён быў на вайне. У яго стралялі, а ён бег наперадзе ўсіх і таксама страляў, і ўзяў у палон генерала, і ён быў герой.

— Ну так. Ты гэтак і напішы.

— А гэта будзе праўда?

— А чаму-ж няпраўда. Ён-жа ледзь не памёр, калі ўцякаў ад белапалякаў і захварэў у лесе...

3

Пасля канікул Колька ішоў у школу. Па дарозе яму сустрэлася Надзька, сяброўка яго сястры — Веры. Цяпер Вера была ў Ленінградзе, і Надзька даўно не заходзіла да іх. Яны з ахвотаю разгаварыліся. Колька пахваліўся сваім творам. Гэтакія творы сёння ў школе будуць чытаць усе яго таварышы.

— А гэта няпраўда,—выслухаўшы, сказала Надзька.

— Што няпраўда?

— Што ты гэтак напісаў пра свайго бацьку. Ён такім не быў.

— Яшчэ што выдумай. Мне мамка расказала.

— Твая мамка схлусіла.

— Як?

— А так. І не герой ён быў, а дэзертыр.

— Як?—перапытаў, ужо здзіўлена, Колька.

Надзька расказала ўсё, што ведала. Бацька не быў рэволюцыянерам. Ён хаваўся ад большэвікоў, уцякаў з белымі, і толькі пасля ўжо цішком вярнуўся і пачаў памаленьку абвыкацца.

— Няпраўда, гэта ты хлусіш!—ледзь не заплакаў ад крыўды Колька.

— Мой бацька так расказваў.



— Яго ледзь не застрэлілі, ён хаваўся ад белапалякаў у лесе! — апраўдваўся Колька.

— Не ад палякаў, а ад большэвікоў, кажу, — не здавалася Надзька.

— Гэта ты праўду кажаш?—усё яшчэ не верыў Колька.

— Праўду.

4

У школе было шумна. За час канікул у кожнага назбіралася навін і хацелася іх расказаць. Кольку было нявесела. Ён думаў—як-жа ён будзе чытаць хлусню?

На парце паселі ўсе яго сябры. Яшчэ і цяпер яны не пераставалі шаптацца. Урэшце настаўнік выклікаў Лёньку. Пачалі чытаць пасля і другія. Колька ўважліва слухаў. Ва ўсіх былі бацькі то партызаны, то старыя большэвікі, то маракі. Усе нечым вызначаліся—хто браў Перакоп, хто даваў першы стрэл па Зімнім палацы з „Авроры", хто быў недзе ў сібірскай тайзе.

Шмат у каго бацькі былі ўзнагароджаны ордэнам Чырвонага сцягу. Мішкаў бацька меў ажно два ордэны — адзін за тое, што біўся разам з Чапаевым, а другі за пабудову завода.

Калі кончыў Мішка чытаць — яму запляскалі ў ладкі. Мішка сеў на парту; увесь клас глядзеў на яго, нібы героем быў не яго бацька, а ён сам.

Кольку было сорамна і балюча. Ён зайздросціў сваім сябрам. У іх ёсць чым ганарыцца і радавацца. А яму няма чым пахваліцца. Як пагля-дзяць усе на гэта? Што яны скажуць? Яны нават перастануць дружыць з ім. Бацька дэзертыр, скажуць, хаваўся ад рэволюцыі. І нашто ў яго такі бацька? Чаму не такі, як у іншых? Толькі брыдка яму цяпер. Няхай-бы лепш не было яго, такога. Няхай-бы ён нарадзіўся дзе ў каго чужога.

Калі выклікалі Кольку, ён доўга мяў сшытак у руках. Ён не мог пачаць чытаць і не ведаў, як выгаварыць першае слова. Яму хацелася плакаць.

— Ну, Колька, чытай, — падышоў настаўнік і цёпла пагладзіў па галаве.

Школьнікі глядзелі на Кольку чакаючы. Тады Колька не вытрываў.

— У мяне няма бацькі. Я не хачу мець такога!—з крыўдаю выкрыкнуў ён і, упаўшы галавою на кулачкі, горка заплакаў.





# Кулак і батрак



Байка І. Крылова
Малюнкі А. Волкава

Кулак аднойчы з батраком
Ішоў увечары ляском
Дадому, ў вёску, з сенакосу.
І раптам стрэліся з мядзведзем
носам к носу.
Кулак і ахнуць не паспеў,
Як на яго мядзведзь уссеў.
Цяжкімі лапамі варочае, качае,
І дзе-б яго пачаць, ён месца
выбірае.
Вось-вось задушыць кулака...
„Сцяпанка, выратуй, дапамажы,
мой мілы“—
З-пад лап мядзведзевых ён
просіць батрака.
Сілач Сцяпан, усю сабраўшы сілу,
На звера рынуўся віхром,
Адсек паўчэрапа мядзведзю
тапаром
І у жывот загнаў з размаху вілы.
Мядзведзь зароў і вобземлю упаў,
Мядзведзь канчаецца, здыхае.
Прайшла бяда. Кулак устаў
І тут-жа батрака ўжо лае.

Глядзіць і дзівіцца Сцяпан.
„Даруйце“, кажа ён:—„за што?“
— За што? Балван!
Чаго зарадаваўся з дуру?
Навошта віламі калоў
І сапсаваў такую шкуру!?

Пераклад А. Якімовіча



В. Біянкі

# З ПАРАСЁМ НА ВАЎКОЎ

*(Апавяданне паляўнічага)*

Гэта было смелае паляванне. Рэдка хто адзін адважваецца ісці ўночы ў поле, калі навокал снуюць ваўкі.

Такі смяляка знайшоўся ў вёсцы Мохавай (каля Ленінграда). Ён запрог каня ў сані, узяў стрэльбу, парасё ў мяшку і ў месячную ноч выехаў за вёску.

Неўзабаве ён звярнуў з дарогі і ціханька паехаў цаліною ўздоўж лесу.

Адною рукою ён трымаў лейцы, другою час-ад-часу тармасіў парасё за вуха.

Ногі ў парасяці былі звязаны: усё яно ляжала ў мяшку—толькі галава наверсе.

Сваім піскам парасё павінна было прывабіць ваўкоў. І яно пішчала, што мела сілы: у парасят далікатныя вушы і ім вельмі баліць, калі тармосяць за вушы.

Ваўкоў доўга чакаць не прышлося. Скора паляўнічы заўважыў у лесе зялёна-чырвоныя вугольчыкі. Вугольчыкі неспакойна перамяшчаліся з месца на месца сярод цёмных дрэў. Гэта блішчэлі воўчыя вочы.

Конь захроп і пачаў ірвацца наперад. Паляўнічы ледзве стрымліваў яго адною рукою. Другою трэба было ўвесь час тармасіць парасё за





вушы: ваўкі ўсё яшчэ не адважваліся напасці на сані з чалавекам. Толькі парасячы піск мог іх прымусіць забыцца на страх.

Парасяціна — смачная яда. Забудзешся пра небяспеку, калі парасё пішчыць тут, проста ў цябе пад вухам.

Ваўкі ўбачылі, што за саньмі нешта імчыцца падскакваючы.

Гэта быў мяшок, напханы сенам, але ваўкам здавалася, што ў ім парасё: яны чулі яго піск і пах.

Ваўкі адважыліся.

Яны выскачылі з лесу і кінуліся к саням усёю чарадою — шэсць, сем, восем здаравенных звяроў.

На адкрытым полі яны здаваліся паляўнічаму велізарнымі. Месячнае святло абманлівае. Яно блішчыць у воўчай шэрсці і робіць звяроў надта вялікімі.

Паляўнічы выпусціў з рук парасячыя вушы і схапіў стрэльбу.

Пярэдні воўк ужо насцігаў мяшок з сенам. Паляўнічы прыцэліўся зверу ніжэй лапаткі і стрэліў.

Пярэдні воўк кулём пакаціўся ў снег. Паляўнічы стрэліў з другога ствала—па другім ваўку, але конь ірвануў, і набой прапаў дарэмна.

Схапіўшы абедзьвума рукамі лейцы, паляўнічы стрымаў каня.

Але ваўкі ўжо зніклі ў лесе. Толькі адзін забіты астаўся на месцы.

Тады паляўнічы зусім спыніў каня. Ён пакінуў стрэльбу і парасё на санях, а сам пайшоў падбіраць здабычу.

* * *

Уночы ў вёсцы здарылася трывога: прыбег конь паляўнічага адзін без гаспадара. У шырокіх развалках ляжала пустая двухстволка і рохкала звязанае парасё.

Як развіднелася, сяляне вышлі ў поле і прачыталі па слядах усё, што было ноччу.

А здарылася так.

Паляўнічы ўзваліў сабе на плечы забітага ваўка і панёс да саней. Ён падышоў ужо зусім блізка, калі конь пачуў воўчы пах. Конь задрыжаў ад страху, рвануўся ды памчаўся.

Паляўнічы астаўся адзін з забітым воўкам. З сабою ў яго не было нават нажа, стрэльба асталася на возе.

А ў ваўкоў ужо адышоў страх. Усёю чарадою яны вышлі з лесу і акружылі паляўнічага.

Сяляне знайшлі на снягу толькі косці чалавека і воўчыя косці: чарада з'ела і свайго забітага таварыша.

---

# ЯК МЫ АДЗНАЧЫЛІ ЮБІЛЕЙ ЖУРНАЛА

## ЖУРНАЛ НАМ ПАДАБАЕЦЦА

**На 1935 год мы выпісалі 37 экземпляраў журнала „ІСКРЫ ІЛЬІЧА“.**

**У далейшым пастараемся выпісаць яшчэ больш. Журнал нам вельмі падабаецца. Мы з вялікай цікавасцю прачыталі № 11 і 12. Мы просім, каб у журнале надрукавалі апавяданні і казкі з жыцця першабытных людзей, пра розных жывёл і шмат іншага.**

**Вучні 2 класа 38 Віцебскай школы:**
*Стальмакова К., Арлова Р., Агеенка Д., Капачова В., Чурбакава В., Ніжнікава Д.*

## ВЫПІСАЛІ 137 ЭКЗЕМПЛЯРАЎ

**Раней у нашай школе мала хто выпісваў „ІСКРЫ ІЛЬІЧА“. Многія вучні не ведалі пра свой журнал і не чыталі яго.**

**Але вось наш настаўнік П. Рунец расказаў нам пра пяцігадовы юбілей піянерскіх газет і журнала „ІСКРЫ ІЛЬІЧА“. Мы зацікавіліся сваім журналам і выпісалі ў адзнаку юбілея 137 экземпляраў.**

**Вучні Сялібскай няпоўнай сярэдняй школы (Бярэзінскі раён).**

## І МЫ НЕ АДСТАЕМ

**Люцінская пачатковая школа (Аршанскі раён) раней выпісвала толькі 2 экземпляры „ІСКРЫ ІЛЬІЧА“. Зараз настаўнікі школы правялі вялікую растлумачальную работу сярод вучняў аб дзіцячым друку. У выніку на новы 1935 год вучні нашай школы ўжо выпісалі 58 экземпляраў журнала „ІСКРЫ ІЛЬІЧА“. Падпіска прадаўжаецца.**

**Вучні з нецярплівасцю чакаюць першага нумара журнала „Іскры Ільіча“.**

**Заг. школы** ***В. Камароў.***



# Гадзіннік



## Міцькавы „ходзікі"

У Міцькі над ложкам вісяць „ходзікі". Спачатку, як толькі бацька купіў іх, Міцька не мог спаць. Потым прызвычаіўся да аднастайнага цікання і проста не заўважаў іх.

Кожнай раніцы, каб хутчэй раскатурхаць Міцю ад сну, маці наўмысля з паспешнасцю будзіць яго.

— Уставай, сынок, скарэй... Каторая пара... У школу спознішся.

Міця скоранька падымае галаву, глядзіць на гадзіннік і, калі яшчэ рана, спакойна адказвае:

— Чаго вы баіцеся! Яшчэ толькі сем гадзін. Да школы мне 10 мінут хады. 50 мінут я яшчэ маю, каб адзецца, памыцца, паснедаць, — разлічвае свой час Міцька і пачынае адзявацца.

А то і гэтак бывае: усхопіцца Міцька, гляне на гадзіннік ды адразу:

— Мамачка, скарэй прыгатуйце яду, я зараз-жа адзенуся ды пабягу на заняткі, а то спазнюся.

Аднойчы-ж быў такі выпадак: прачнулася Міцькава маці—глянула на сцяну: гадзіннік не ідзе. Уперлася гіра ў ложак і „ходзікі" спыніліся.

— Міця, скарэй уставай, напэўна ў школу спазніўся... Гадзіннік стаіць.

— Зараз будзем ведаць,—усхапіўся Міця і выбег да суседзяў паглядзець, каторая гадзіна.

— Добра, што ў Міхайлавых гадзіннік не стаў, а то і невядома, колькі гадзін,—разважала маці, калі вярнуўся Міцька.

— Калі-б сталі ў Міхайлавых, дык збегаў-бы да Мікалаевых. Абы захацеў, дык можна даведацца колькі гадзін,— адказаў Міцька і пачаў скарэй збірацца ў школу, бо было ўжо каля васьмі гадзін раніцы.

Гадзіннік цяпер — не навіна. Амаль у кожнай хаце знойдзеш. Таму Міцька



**З вечара манах садзіўся чытаць адну і тую-ж царкоўную кніжку.**



Пясочны гадзіннік.

не вельмі бедаваў, калі спыніўся іх гадзіннік: ён вышаў да суседа і даведаўся, колькі часу.

„А што было-б, калі-б і ў Міхайлавых спыніўся гадзіннік, і ў другіх суседзяў?.. Або, каб усе гадзіннікі сталі?“— мільганула ў Міцькі трывожная думка, калі ён ішоў у школу.

І сапраўды, рэбята, што было-б калі-б раптам усе гадзіннікі спыніліся?

А было-б тое, што многія з вас прышлі-б у школу вельмі рана, або позна. Гэтак сама было-б і з рабочымі на заводах, на фабрыках. А на чыгунцы цягнікі наляцелі-б адзін на другі.

## Гісторыя з манахам

Быў час, калі гадзіннікаў зусім не было. Ніякіх—ні „ходзікаў“, ні кішэнных. Як-жа тады людзі мерылі час? Сонца, лямпа, свечка, кніга—гэта ўсё прадметы, па якіх людзі даведваліся, колькі гадзін.

Вось як вымерваў час больш за тысячу гадоў таму назад адзін манах. Ён кожны дзень званіў у тры гадзіны па поўначы і гэтым звонам будзіў другіх царкоўных служак на работу.

З вечара гэты манах садзіўся чытаць адну і тую-ж царкоўную кніжку (другія яму былі забаронены) і, як дачытваўся да тых слоў, пры якіх званіў учора— ішоў званіць. Так было доўгі час. Але аднаго разу манах напіўся і моцна заснуў. Прачнуўся ён тады, калі сонца паднялося ўжо высока. Разам з манахам праспалі не толькі царкоўныя служкі, але і другія жыхары горада, якіх будзіў на работу звон. Манах быў пакараны за такі ўчынак.

Бачыце, рэбята, які дрэнны гадзіннік— кніга. Мала таго, што яму нельга даўраць, бо не кожны чалавек аднолькава чытае, дык такі гадзіннік яшчэ і „падвесці“ можа. Тое-ж самае з лямпаю і свечкаю.

Калі ў Міцькавай кватэры спыніўся гадзіннік—ён вышаў да суседзяў і даведаўся, каторая гадзіна. А манаху—чакай паўдня, калі будзе найменшая цень, або заходу сонца, калі пачнуцца новыя суткі (некалі суткі лічыліся ад заходу да заходу сонца).

## Першабытныя гадзіннікі

Многа розных спосабаў прыдумліваў некалі чалавек для вымервання часу. Яшчэ гадоў сто назад ужывалі, асабліва




Вадзяны гадзіннік.

на караблях, даўнейшыя пясочныя гадзіннікі. Пабудаван такі гадзіннік, як паказана на малюнку, вельмі проста. Калі з аднае палавіны пасудзіны пясок перасыплецца ў другую, значыць прайшоў пэўны час. Каб завесці гадзіннік— трэба толькі перавярнуць пасудзіну, каб пясок зноў быў зверху. Вылічылі, колькі разоў можа за суткі перасыпацца пясок з аднае палавіны ў другую і даведаліся, які час патрэбен на адзін раз.

Былі і вадзяныя гадзіннікі. У вялікую лейку (глядзі малюнак) налівалі ваду. З лейкі вада капала ў бочку. Для большай зручнасці лейку дзялілі на 12 або 24 роўныя часткі і даведваліся, каторая гадзіна сутак.

## Гадзіннікі— веліканы

Хто прыдумаў першы гадзіннік з гірамі — невядома. Вядома толькі, што ўжо больш за 700 гадоў назад адзін цар прадаў другому гадзіннік з гірамі за вялікую плату. А праз 50 гадоў пасля гэтага такія гадзіннікі пачалі ўстанаўліваць на сталічных вежах.

У Расіі першы такі гадзіннік быў устаноўлен у Маскве ў 1621 годзе на аднэй з вежаў Крэмля.



Адзін з найбольшых гадзіннікаў знаходзіцца ў Лондане на Вестмінстэрскай вежы. На гэтай вежы 4 гадзіннікі: па адным з кожнага боку. Адкуль ні глянеш — відаць колькі гадзін. Упоперак гадзіннік мае 8 метраў. Паспрабуйце адмераць 8 метраў і ўбачыце, што гэта не так мала! Мінутная стрэлка мае 3½ метры, а кожная лічба—¾ метра. А вы ведаеце, колькі важыць маятнік у гэтым гадзінніку? 200 кілограмаў! Гэта як тры дарослых мужчыны. У добрую пагоду можна за некалькі кілометраў убачыць на гэтым гадзінніку каторая гадзіна.

Цяжэй было прыдумаць людзям меншыя гадзіннікі. Многа гадоў прайшло пакуль з'явіліся сценныя гадзіннікі. А праз гадоў сто, пасля сценных, былі прыдуманы і кішэнныя гадзіннікі. Праўда, доўгі час яны выраблялiся без шкла і толькі з адной гадзіннаю стрэлкаю.

Мінутная стрэлка з'явілася прыблізна ў 1700 годзе, праз 200 год пасля гадзіннай, а секундная—яшчэ пазней.

Спачатку гадзіннікі каштавалі вельмі дорага і былі толькі ў самых багатых людзей: цароў, каралёў, купцоў. У Дацкай каралевы быў пярсцёнак з гадзіннікам. У гэтым гадзінніку маленькі малаточак ціханька адстукваў гадзіны.

Вось які шлях прайшоў гадзіннік.

**А. П.**

# ПАДУМАЙ

## ЛАБІРЫНТ




Справа адбываецца ў рабочым квартале аднаго заграннічнага горада. Малюнак паказвае план гэтага квартала.

Піонеры павінны пранесці рэвалюцыйныя лістоўкі з пункта А у пункт Б, дзе іх чакае рабочы. Але квартал напоўнен фашыстамі, і трэба прайсці так, каб не сустрэцца з імі.

Якой дарогай павінны пайсці піонеры, каб не трапіць на вочы ніводнаму фашысту?



## ХТО ЁН?

Улетку шэры,
Зімою белы,
Вушы доўгія мае,
Хутка ў лес уцякае.

## У КАГО БОЛЬШ СЛОЎ?

(Гульня)

Трое окцябрат прыдумалі вельмі цікавую гульню: яны ўзялі некалькі літар з разразной азбукі і сталі складаць з іх розныя словы.

Хто больш складзе слоў, той і выйграе.

Кожны з іх узяў па некалькі такіх літар: А, І, К, М, Р, Я. Адзін окцябронак склаў з гэтых літар такія словы: рак, рака, маяк, мерка, рамка, яма, марка. У другога за гэты час былі падабраны такія словы: мак, мама, крама, армія, Макар, ікра, Кім.

Не адставаў і трэці. Кожны стараўся скласці як найбольш слоў.

Паспрабуйце і вы, рэбята, наладзіць такую гульню. Вазьміце другія літары і пастарайцеся скласці з іх як найбольш слоў.

Цана 30 кап.






## Выдумка Янкі Маланкі

Янка прышоў да нас і сказаў:

— Я ў звярынцы быў. Звяры там дарэмна гуляюць, нічога не робяць. А я прапаную выкарыстаць іх для фізкультуры. Вось як гэта можна зрабіць.







Адрас рэдакцыі: МЕНСК, ДОМ ДРУКУ

Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ. Афармленне Г. ІЗМАЙЛАВА.

Друкарня імя Сталіна. 24.000 экз. Заказ № 3. Мелгарліт № 76